


10

THE NEW 52!

# The FLASH®

SHOCKED BY THE DEADLY STORM OF WEATHER WIZARD!™

FRANCIS MANAPUL
BRIAN BUCCELLATO
MARCOS TO
RAY McCARTHY

AUG 2012

RATED T TEEN

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Флэш
№10 (2011)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей

DCCOMICS.COM




# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(НУМАР 1. MARVEL, 2015)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.** Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго няздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.








ЦЭНТРАЛ-СІЦІ, ДВА ГАДЫ РАНЕЙ.

Вы дазваніліся Марка. Гаварыце сцісла і ясна.

BEEEEEP

Прывітанне, гэта Клаўдзіа. Ты меў рацыю... Цэнтрал-Сіці сапраўды ззяе.

Я прыехаў сюды дзеля сустрэчы. Набліжаюцца вялікія змены ў сямейным бізнесе. Ведаю, цябе гэта не цікавіць... Але я хачу, каб ты выслухаў мяне.

Пасля смерці бацькі і твайго ўхода... я **прыняў рашэнне** пераняць справу. Я быў малады і ў адчаю, шукаў магчымасці даказаць, на што я здольны.

Але зараз... Але цяпер я дастаткова мужны, каб прызнаць гэта. Мне патрэбна **дапамога**.

Калі мы былі маленькімі, ты сказаў, што заўсёды будзеш прыглядваць за мной.

І вось цяпер я хачу папрасіць, каб ты быў каля мяне. Як калісьці... Вялікія **браты Мэрданы**! Гэтага б хацеў наш бацька.

У любым выпадку буду рады павідацца з табой...

NOK NOK

Нарэшце. Я ўжо думаў, што ніколі не дачакаюся...

BZZZZT... BZZZZT...

Марка! **Хутка** ты адказаў. Я так рады пачуць твой голас... Але паслухай, я табе заразператэлефаную...

А? Што **вы** тут робіце?

BLAM BLAM BLAM
BLAM BLAM
BLAM









ЗАРАЗ.

У апошні час маё жыццё было проста ўраганам.

Я аказаўся ў месцы пад назвай **Спідфорс**, каб выратаваць Айрыс Уэст і яшчэ трох чалавек, якія заблукалі ў часе.

Але замест таго, каб адшукаць іх, я даведаўся, што прычынай усіх гэтых расколін у часе (якія, як я лічыў, узнікаюць па маёй віне), з'яўляецца звар'яцелы пілот Другой Сусветнай вайны **Турбіна**.

Таксама я даведаўся, што мае сілы бяруцца ад энэргіі, якая складаецца ў Спідфорсе з энэргіі прасторы і часу.

Нажаль, Айрыс мне выратаваць не атрымалася. Я згубіў іх у мінулым. Я вельмі **хачу**, але не магу... Не, я **не павінен** пакінуць свае сляды ў мінулым.

Калі я нарэшце выбраўся адтуль, адразу патрапіў у **Горад Гарыл**, які выглядаў адзін у адзін як горад з якога-небудзь навукова-фантастычнага фільма.

Пасля таго, як мяне ледзь не забіла гарыла, якая ела мазгі, я даведаўся, што я нейкі «Выбраны». Я бягу дзеля ўсяго света, і калі я спынюся... ну, адбудуцца дрэнныя рэчы.

А потым я вярнуўся і даведаўся, што Цэнтрал-Сіці і Доктар Эліас – чалавек, якому я давяраў, – цяпер супраць мяне.

Усё даволі цяжка, згадзіцеся. Але пачакайце, далей будзе яшчэ горш...

CENTRAL CITY

Я пайшоў сустрэцца з **Пэці Співот**, дзяўчынай, якую я кахаю... і з адзіным чалавекам, які здольны дапамагчы мне разабрацца з усім, што здарылася.

Яна лічыць, што хлопец пад гэтай маскай мёртвы, і мне трэба сказаць ёй праўду. Але яна нечакана ўляцела ў **Гватэмалу**, каб знайсці нейкага забойцу.

А цяпер яна ў палоне ў майго старога ворага - Марка Мэрдана, таксама вядомага як **Пагодны чараўнік**... І цяпер я ў Пуэрта Кетцале. І я ў адчаі спрабую адшукаць яе.

# WEATHER WIZARD

*Пагодны чараўнік

SCRIPT & COVER BY FRANCIS MANAPUL & BRIAN BUCCELLATO
PENCILS BY MARCUS TO
INKS BY RAY McCARTHY
COLORS BRIAN BUCCELLATO (pgs 1-10) & IAN HERRING (pgs 11-20)
LETTERS WES ABBOTT • ASSOCIATE EDITOR CHRIS CONROY • EDITOR MATT IDELSON

Мяне завуць Бары Ален, і ў мяне такое ўражанне, што пасля таго, як я стаў Флэшэм, маё жыццё перавярнулася нагамі ў неба...

FWOOOOOOOOOSH

Літаральна.

DC COMICS PROUDLY PRESENTS THE FLASH


Дык як жа ўсё зрабіць правільна? Дэрыл* неяк сказаў мне, што цяжар адказнасці не варта несці аднаму.
*Імя **Капітана Фрая**.


Вось для чаго патрэбна сям'я. Вось для чаго патрэбны любімыя людзі.
Цяжар не такі цяжкі, калі ты можаш падзяліцца ёю з тым, каму давяраеш.


Я ўсім сэрцам кахаю Пэці. Калі з ёй што-небудзь здарыцца перш, чым я змагу сказаць ёй усю праўду...
Я... Я нават ня ведаю, што буду рабіць.


<Мой Бог!>


Праўда ў тым... **Яна** патрэбна мне больш, чым я ёй.


Добра, Бары, самы час засяродзіцца, бо прама зараз...

...гэтыя людзі маюць патрэбу ў табе.

FWOOOOOOOOSH

БЯЖЫЫЫЫЫЫЦЕ!

Ніколі яшчэ ў мяне не было такога моцнага жадання кагосьці **ўбачыць**.

Я павінен расказаць ёй праўду аб тым, хто я есць на самой справе.

Я павінен сказаць ёй, што я - Флэш.

Скажу пасля таго, як выратую гэта гарадок ад блізкага павадка.

‹Прабачце›, сябры! Беражыцеся!
А як вы яшчэ можаце сказаць на іспанскай: «Прабачце, дзякуючы сваёй супершыбкасці, я цягну за сабой міліёны літраў вады, каб ваш горад не затапіла»?




SPLOOSH

<Прабачце>, сеньёр. Не хацеў перапыняць вашу рыбалку.
<Не праблема. Але... у маёй лодцы цяпер дзюра.>
Нават калі б я не паспеў вывучыць іспанскую падчас двух семестраў, я б сказаў, што трэба адапхнуцца, каб не патануць.
ЙУУУХУУУУУУУ!


Чаму гэты Флэш так на мяне раззлаваўся?! Я нават ня ведаю, хто **такая** гэтая Пэці.


Яна - паліцэйская, якая расследуе забойства твайго брата.
У гэтым зусім няма сэнсу, **Эльза**! Навошта мне выкрадаць таго, хто спрабуе...
У гэтую хвіліну табе лепш турбавацца аб Флэшу...


...Здаецца, ён зараз не ў тым настрою, каб з ім размаўляць.
Выдатна... Мне надакучыла гэтая летаніна.
Я дам яму штосьці, аб чым можна паразважаць...


Забейце іх
адсылаецца...
RATATATATATAT
TA
ATATAT
Ой, ды няўжо, Марка. І гэта ўсё, што ў цябе ёсць? Лічыш, мяне гэта спыніць...

«...ад пошукаў **Пэці**?!»

Аль **Арана**? Што гэта за імя такое?

Гэта мянушка... перакладаецца як «павук».

Добра... «Эль Арана», ты ведаеш, што адбываецца?

Хто гэтыя людзі? Навошта ім спатрэбілася выкрадаць мяне з аэрапорта? І не хачу паказацца няўдзячнай...

...але навошта яны заставілі нас жывымі?

Страх. Яны баяцца таго, што мы занадта шмат ведаем. Таму мы тут. Яны баяцца, што мы маглі паведаміць штосьці **іншым**. Таму яны заставілі нас жывымі.

Дык значыць усё гэта з-за таго забойства ў Цэнтрал-Сіці, якое я расследую?

Так. Уся гэтая справа - завіруха. Я «займаўся» гэтым для свайго працадаўца. Бо гэта менавіта тое, чым я займаюся па жыцці...

Я ўпэўніўся, што цела там не было... Не засталося нічога, што б прывяло да сям'і Мэрданаў.

**Я ведала**, што гэта забойства. Там была нейкая нататка з патрабаваннем выкупа. Цела не было... Але сляды крыві казалі мне аб адваротным.

Пару гадоў назад я працаваў на Мэрданаў за межамі Цэнтрал-Сіці. Аднойчы ноччу я атрымаў вар'яцкі званок ад жаны Клаўдзіа, Эльзы. Яна дала мне адрас...

І калі я туды прыехаў, убачыў, што там пекла. Усюды кроў. Калі я стаў аглядвацца ў пошуках цела...

Я знайшоў цела Клаўдзіа Мэдсана, 22-гадовага кіраўніка сям'і. У хлопца ніколі не было прыхільнасці да гвалту, але ён быў разумны.

Дастаткова разумны, каб накіравацца ў Цэнтрал-Сіці на сустрэчу з канкуруючым картэлем, каб дамовіцца аб міры, які аб'яднае сем'і і спыніць гвалт.

Тады навошта яны яго забілі?

Гэта былі не **яны**. Гэта ўсе **падстава**.

Эльза даведалася, што Клаўдзіа аддае вялікую тэрыторыю Мэрданаў у абмен на мір.

Яна ведала, што гэта моцна паслабіць сям'ю, таму **яна** забіла Клаўдзіа і абвініла **іх** у гэтым, каб пачаць **вайну паміж двума сям'ямі**.

Яна ведала, што такім чынам верне брата Клаўдзіа, Марка, назад у сям'ю. Сярод двух братоў менавіта ў яго былі **звышнатуральныя** здольнасці. А гэтага было больш чым дастаткова, каб іх сям'я мела перавагу ў сіле.

Таму яна забіла свайго мужа дзеля сям'і... І яна выслала цябе ўсё падчысціць, каб Марка не даведаўся, што кроў на яе руках.

Яна і нас заб'е.


Не, пакуль у мяне ёсць цела Клаўдзіа і зброя забойства.
Я пакінуў на месцы злачынства гэтую падробленую цыдулку як паведамленне таму, хто забіў Клаўдзіа. І калі салдаты сям'і Мэрдан выкралі мяне, гэта пацвердзіла, што за ўсім гэтым стаіць **Эльза**.
І зараз у мяне ёсць толькі адзін моцны доказ, які можа выкрыць яе...
Мне шкада, што я вас уцягнуў ва ўсё гэта. Ня думаў, што заставіў дастаткова доказаў, каб паліцыя пачала мяне пераследваць.
Ды не, проста я вельмі допытлівая.


А я - занадта верны сям'і Мэрдан. Я павінен быў проста зрабіць сваю работу, але мне трэба было паказаць Марка, што яна нарабіла. Нажаль, яна дабралася да мяне перш, чым я паспеў зрабіць гэта.
Хаця б у нас ёсць хоць нейкі рычаг. Пакуль у цябе ёсць доказ...


...яны ня стануць нас забіваць.


CLA-CHIK
Ці стануць?


Марка... Нам трэба трымацца **далей** адсюль.
Мы ня можам прывесці яго да нашых **ўгоддзяў**.
Я так не магу з ім зладзіць... Трымай руль!
І пасля ўсіх нашых сутычак ты сур'ёзна лічыш, што зможаш спыніць мяне сваёй маланкай?
Чаму б табе разам з маланкай не абліць мяне хімікатамі?
!?
Не звяртай увагі. Прыватны жарт.
Гэтая пагоня скончылася!
THOK
УУУУНННФФФ!
SKREEEEEEEEE


WUUMP


Канец гульням, Марка...


...Адказвай, дзе ты трымаеш Пэці Співот?
Я... Я... Я ня ведаю. **Даю слова**.
Я ведаю пра яе толькі адно - яна спрабавала раскрыць забойства майго брата. Я **любіў** свайго брата... Навошта мне ў такім выпадку перашкаджаць **расследванню**?
**Ілгун!** Я на кавалкі парву ўсю тваю імперыю, калі ты не скажаш мне, дзе яна!


Пакінь яго... **Я** раскажу табе, дзе яна!
**Што?!**


**Яна ў мяне**. Гэта ў доме для гасцей, які належыць Мэрданам. Гэта каля паўднёвага ўезда... Дальш па дарозе.


Калі з ёй штосьці ня так, я вярнуся да вас абодвух.


Ты... Увесь гэты час яна была ў цябе?! **І ты мне не сказала**?

ПРАЗ ПАЎСЕКУНДЫ...
















Пэці!

Флэш? Дык **вось** куды ты знік?

**Не**. Гэта доўгая гісторыя... Дастаткова будзе сказаць, што калі я вярнуўся, пачуў, што табе можа спатрэбіцца дапамога... Таму я і прыбег.

Ты ў парадку?

Так.

Але можа быць спынешся балбытаць і зробіш што-небудзь на самой справе **карыснае**...




Ты выкрала дзяўчыну... **Навошта**? Што яна ведае пра смерць Клаўдзіа?
Нічога. Яна нічога ня ведае... І я не хацела турбаваць цябе гэтым, Марка.
Я толькі спрабую дапамагчы сям'і.

Ты **ўвайшла** ў сям'ю Мэрдан, Эльза... І тут ты не павінна ўтайваць інфармацыю... Ці прымаць рашэнні без **маёй** згоды!
Як ты можаш казаць такое? **Я** адна трымала гэтую імперыю **на нагах**, пакуль ты гуляў у **«копаў і злачынцаў»**!
Клаўдыа быў занадта маладым, каб кіраваць гэтым бізнэсам...
Вы, браты Мэрданы, былі толькі перашкодай гэтай імперыі. Ваш бацька **ведаў** гэта!

Толькі дзякуючы **маёй** руплівай працы і **маім** ахвярам мы цяпер на такой высокасці!
**Тваім** ахвярам?! А ты ведаеш, што са мной **адбылася**, калі я **атрымаў** гэтыя сілы?!
Калі я ствараю ўраган, унутры мяне накопліваюцца мае самыя цемныя пачуцці! І чым далей, тым яны ўзмацняюцца да такога ўзроўня, што мне хочацца **забіць** самога сябе!

Ты так і заставіш усё гэта гарэць?
Некаторы час... Мне вельмі трэба аб чымсьці паразмаўляць з табой, Пэці...
Не. Я ўжо мільён разоў пракручвала ў галаве гэтую размову... Пракручвала тое, што я скажу табе, калі мне выпадзе такі шанец. Таму я першая.
Я **так** злавалася на цябе, калі Бары знік...

Я абвінавачвала цябе ва ўсім дрэнным, што здарылася са мной, з Бары, з Цэнтрал-Сіці... Хоць я і ведала, што ты ўсяго толькі спрабаваў рабіць правільныя рэчы.
Так, ты герой, і ў цябе добрыя намеры.
Мабыць, гэта не твая віна...

Ну і што?! Бары дагэтуль няма, маё сэрца дагэтуль разбіта...

Я ведаю ўсё пра змены твайго настроя! Ты і тваe моцы нікчэмныя. Ты паняцця ня маеш, што такое **сапраўдная** ахвяра!
І ты **паняцця ня маеш**, што такое груз адказнасці!
**Я забіла свайго мужа дзеля гэтай сям'і!**
Ты... **Ты** забіла Клаўдзіа!?

Прабач... Але ён прымаў рашэнні, якія маглі б прывесці нашу імперыю да краху. Ён быў **слабым**.
Табе ня варта было **пакідаць** нас, Марка.
Я павінна была зрабіць гэта... Кляну-ся... Гэта ўсё дзеля сям'і...
**Сям'і**?! Ты забіла май-го **брата**! Свайго **мужа**! Ты **знішчыла** сям'ю Мэрдан! І цяпер раз-важаеш пра ахвяры?

KA-THOOM!
**Дык далучымся да іх.**
BZZZZZZZZZZT!

...І кожны раз, калі я бачу гэты чырвоны касцюм...
...гэта нагадвае мне аб тым, што я згубіла.

Ну, а што ты хацеў сказаць мне?
Я... Я проста... па-тушу гэты пажар...
...а потым мы зможам адправіцца дадому.


Уннннгхxx... Чаму я... усё яшчэ жывы?


Я так памыляўся.
Я думаў, што калі раскажу Пэці праўду пра сябе, яна дапаможа мне несці гэты груз. Я лічыў, што яна менавіта тая, з кім я магу пагаварыць, даручыцца.
Але я не магу зрабіць гэта... Гэта будзе несправядліва ў дачыненні яе.


Эль... Эльза... усе, каго я любіў... мёртвыя... **Я** павінен быў...
...Быць шчаслівым, што жывы..
Эльза?
Не, балван. Не Эльза...


Паколькі я Флэш, я павінен бегчы. Я павінен бегчы, каб з гэтым светам усё было ў парадку. Але калі я раблю гэта, я рызыкую жыццём Бары.
Горш за ўсё, я рызыкую жыццём тых, каго шаную.
Пэці ўжо не раз лічыла мяне мёртвым. І зараз таксама лічыць, што я мёртвы. Як я магу сказаць ёй праўду?


Ліза Снарт? Ты... сястра **Холада**...
Заві мяне **Глайдэрам**.
А цяпер узняміся Марка... Час ісці дадому.


Я не магу рабіць ёй балюча кожны раз, калі апранаю чырвоны касцюм. Цяжар маёй адказнасці ляжыць цалкам на мне.
Свету **неабходна**, каб я быў Флэшам...
І каб Пэці была здольна рухацца далей... **ёй** трэба лічыць, што Бары **мёртвы**.
NEXT: HEAT WAVE!

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перaклада **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміўм.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.